*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*




# Наша слова

№ 44(54) • 18—24 снежня 1991 г. • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)

## Поступ тыдня

БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФРОНТ «АДРАДЖЭННЕ» ПРАВЁЎ У МЕНСКУ МІТЫНГ, НА ЯКІМ ГАВАРЫЛАСЯ АБ ПРАБЛЕМАХ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ І ВЫХАДУ З ЭКАНАМІЧНАГА І САЦЫЯЛЬНАГА КРЫЗІСУ. Зянон Пазьняк адзначыў, што незалежнасць Беларусі пакуль не дае вынікаў: тавары вывозяцца ў суседнія рэспублікі, нам жа выдаюцца ўзамен рублі-паперкі. І ўсё з-за халуйства ўрада і парламента перад Масквой.

*ПАВЕДАМЛЕНА, ШТО ЗГОДУ ДАЛУЧЫЦЦА ДА МЕНСКАГА ПАГАДНЕННЯ ТРОХ СЛАВЯНСКІХ РЭСПУБЛІК ВЫКАЗАЛІ ЎЖО ДЗЕСЯЦЬ ДЗЯРЖАЎ.*

ПРЫНЯТА ПАСТАНОВА БЕЛАРУСКАГА ПАРЛАМЕНТА АБ'ЯВІЦЬ УЛАСНАСЦЮ БЕЛАРУСІ ЎСЮ РУХОМУЮ І НЕРУХОМУЮ МАЁМАСЦЬ КПБ — КПСС, уключаючы грашовыя сродкі ў рублях і валюце, размешчаныя ў банках, страхавых акцыянерных таварыствах, сумесных прадпрыемствах і іншых установах і арганізацыях на тэрыторыі Беларусі, а таксама маёмасць КПБ, што знаходзіцца ў іншых рэспубліках і за мяжой.

*ПАДПІСАНА ДЭКЛАРАЦЫЯ АБ ПРЫНЦЫПАХ ДОБРАСУСЕДСКІХ АДНОСІН ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І ЛАТВІЯЙ.*

ЯК ВЯДОМА, У МІНУЛЫМ ГОДЗЕ ПЛАН БУДАЎНІЦТВА ЖЫЛЛЯ ДЛЯ ЧАРНОБЫЛЬЦАЎ БЫЎ САРВАНЫ. ТОЕ Ж ВЫЯЎЛЯЕЦЦА І СЁЛЕТА. З 17590 кватэр і дамоў, якія намечана было ўзвесці ў «чыстых» рэгіёнах, заселена ўсяго 3500, пад пагрозай зрыву іх будаўніцтва не менш як 5000. Да таго ж у пабудаванае жыллё тысячы сямей адмаўляюцца пераязджаць — не ўлічваюцца пажаданні чарнобыльцаў.

ПАШЫРАЮЦЦА ПРАМЫЯ ЭКАНАМІЧНЫЯ СУВЯЗІ ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І ІНДЫЯЙ. У БЛІЖЭЙШЫ ЧАС ЧАКАЕЦЦА ВІЗІТ НАШАЙ УРАДАВАЙ ДЭЛЕГАЦЫІ Ў ДЭЛІ.

*Вучымся!*

## ЧАШНІКІ: УСЕ ПЕРШЫЯ КЛАСЫ — БЕЛАРУСКАМОЎНЫЯ

*У Чашніках у барацьбе за ажыццяўленне Закона аб мовах атрымана першая вялікая перамога: з сёлетняга верасня ва ўсіх першых класах чатырох гарадскіх школ навучанне вядзецца па-беларуску. А было ж і такое, што бацькі супрацьўляліся, пісалі скаргі... І тым не менш дзеці вучацца на роднай мове.*

*НА ЗДЫМКАХ: настаўніца 1 «В» класа СШ № 4 г. Чашнікі Наталля Віктараўна Саўчанка; у пачатковых урок роднай мовы.*

*Фота М. ХАМЦА.*





## Леанід ЛЫЧ: цяпер з беларускасцю ваююць толькі самі беларусы

*(Беларусізацыя і яе праблемы)*

*14 лістапада ў клубе «Спадчына» адбылася сустрэча з Леанідам Лычом, доктарам гістарычных навук. Найбольш цікавыя моманты гутаркі сп. Лыча з сябрамі клуба мы прапануем увазе нашых чытачоў.*

Апошнія 50 гадоў праблемы беларусізацыі не вывучаліся, а часцей за ўсё пра іх маўчалі, не хацелі будзіць у людзей нацыянальную самасвядомасць. Упершыню слова «беларусізацыя» я пачуў, працуючы ў архіве «Кастрычніцкая рэвалюцыя і сацыялістычнае будаўніцтва».

Кастрычніцкая рэвалюцыя беларусам, як і ўсім народам былой імперыі, дала магчымасць будаваць сваё жыццё на нацыянальным грунце. Праўда, нам заўсёды не шанцавала. Адразу пасля рэвалюцыі на нашай тэрыторыі ішлі войны, тэрытарыяльныя спрэчкі.

1 студзеня 1919 года была створана рэспубліка, але прайшло крыху больш за месяц, як беларускі народ застаўся ў межах адной былой Менскай губерні з насельніцтвам паўтара мільёна чалавек. І сёння толькі здзіўляешся, што на гэтай невялічкай тэрыторыі знайшліся людзі, якія ўзяліся за адраджэнне роднай культуры. Гэта сведчыць аб тым, што да рэвалюцыі беларуская нацыя не была задушаная.

Найбольшую ініцыятыву па адраджэнні праяўляў Наркамат асветы. Відаць, у ім працавалі разумныя людзі. Яны ведалі, што беларусізацыю трэба пачынаць з дзяцей. Настрой Наркамата асветы падтрымалі справай работнікі Наркамата земляробства, бо іхняя дзейнасць была звязана з вясковым людам. Яны разумелі, што, каб мець больш уплыву на сялянства, да яго трэба звяртацца на роднай мове.

І ўсё ж працэс беларусізацыі ішоў вельмі павольна. Напачатку сам народ да беларусізацыі не праяўляў цікавасці. Гэта значыць, што працэсы асіміляцыі зайшлі вельмі далёка. Не было літаратуры, каб людзям азнаёміцца са сваёй духоўнай і гістарычнай спадчынай. Ужо ў снежні 1920 года, калі мінула 5 месяцаў з таго часу, як Беларусь была вызвалена з-пад польскай акупацыі, на Другім Усебеларускім з'ездзе Саветаў, а затым у лютым 1921 года на другой сесіі УВКБ, загаварылі пра неабходнасць арганізацыі жыцця на мясцовых мовах. Праўда, пакуль што на Другім Усебеларускім з'ездзе Саветаў адкрыта не гаварылі пра беларускую мову, але было афіцыйна заяўлена, што не толькі на рускай мове павінна весціся справаводства. А на другой сесіі УВКБ у афіцыйным дакуменце прысутнічае зноў беларуская мова, прычым прысутнічае ў вельмі выгадным для нас плане. Рэзалюцыя Наркамата асветы рэкамендавала працаваць на мове пераважнай большасці працоўнага сялянства Беларусі, менавіта на беларускай. Наркамасветы павінен у сваёй працы зыходзіць з няўхільнай перспектывы планамернага і паступовага пераходу ўстаноў на беларускую мову. Распачынаць гэту справу ўжо патрэбна было ў бягучым 1921 годзе. Гаварылася шмат пра арганізацыю курсаў для настаўнікаў па беларусазнаўству.

Выданне падручнікаў па беларускай мове было названа ўдарнай задачай Наркамасветы.

Як толькі пачалася беларусізацыя, дык адразу ўзніклі і яе праціўнікі. У асноўным тармазілі не ішло па лініі камуністычнай партыі, якую ўзначальвалі людзі, далёкія ад роднай культуры або выхадцы з іншых рэспублік. Гэта не падбалася прагрэсіўна настроеным камуністам, асабліва літаратарам. І яны вырашылі ў лютым 1921 года афіцыйна звярнуцца ў ЦК КПБ са сваёй трывогай, менавіта што ў нас у параўнанні з іншымі рэспублікамі тармазіцца нацыянальнае адраджэнне. Гэты ліст падпісалі 32 чалавекі. Яны пісалі, што многія людзі, якія знаходзяцца на кіруючых пасадах, не ведаюць гісторыі краю, не далучаны да культуры народа, таму і няправільна праводзяць палітыку нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі. Тыя, хто падпісаў ліст, думалі, што на іх заяву ЦК КПБ адгукнецца прыхільна, але атрымалася наадварот. Людзі з ЦК наведалі кватэры тых, хто падпісаў ліст, так пагаварылі з імі, што калі сабраліся гэтыя 32 чалавекі ў ЦК КПБ, то большасць адмовілася ад сваіх подпісаў. Ужо ў лютым 1921 года ў многіх людзей прапала ахвота выступаць за нацыянальнае адраджэнне рэспублікі. Усе працэсы беларусізацыі знаходзіліся пад кантролем партыйных органаў.

Ад беларускай партыйнай арганізацыі паехала дэлегацыя на 10 з'езд РКП(б). У час пасяджэння з'езда ў прэзідыум была пададзена запіска, у якой гаварылася, што камуністы Беларусі гвалтам праводзяць нацыянальна-культурнае адраджэнне, але ніякай беларускай нацыі не існуе, а ўсё гэта можа толькі ўзвесці мяжу паміж рускімі і беларусамі, таму дайце адпаведнае ўказанне беларускай партыйнай арганізацыі. Папера трапіла ў рукі Сталіна, і ён адказаў так: «Гэта няправільна, што не існуе беларускай нацыі. Якраз

(Заканчэнне на 2-й с.).

*Роздум*

## Мова і незалежнасць

Зараз ва ўсім свеце абмяркоўваюцца вынікі нядаўняга рэферэндуму на Украіне. Аднак палітыкі мала зяртаюць ці нават зусім не звяртаюць увагу на вельмі істотны, як нам здаецца, факт: наколькі, аказваецца, мова ўплывае на грамадзянскую свядомасць чалавека, на ягоную прыхільнасць (лаяльнасць) да сацыяльнага супольніцтва, у якім ён жыве, у лёсавырашальны для гэтага супольніцтва момант. У дадзеным выпадку вырашалася — быць, нарэшце, народу Украіны суверэнным ці па-ранейшаму чакаць, якую жыццёвую праграму ўкажуць яму мудрацы з імперскага Цэнтра. Украінцы пераканаўча выказаліся за самастойнасць. Цікава, што, як сведчыць прэса, многія сацыёлагі прадказвалі, што звышіндустрыяльныя раёны, дзе пераважвала рускамоўнае (а, значыць, і найбольш імперыялізаванае) насельніцтва (Данбас, Харкаўскі рэгіён), не падтрымаюць ідэю ўкраінскага суверэнітэту. Аднак сацыёлагі памыліліся: кожныя чатыры з пяці там прагаласавалі за ўхвалу акта пра незалежнасць Украіны. Відаць, выхаваныя ў савецкім духу даследчыкі зноў не ўлічылі як след сілу працэсу нацыянальнага згуртавання, што ішла ў народзе.

Характэрна аднак, што, як паведаміла газета «Московские новости», «быць грамадзянамі незалежнай Украіны пажадала не толькі пераважная большасць украінцаў, але і каля дзвюх трацей рускіх, яўрэяў, прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей. Прычым,— падкрэслівае газета,— сярод рускіх, якія валодаюць украінскай мовай, прыхільнікаў «самасційнай» Украіны больш, чым сярод рускамоўных украінцаў».

Л. М.

Максимъ Богдановичъ

Зеленя

стихи

переводъ съ бѣлорусскаго автора

Переводы стиховъ — словно женщины: если красивы, то не верны; если верны, то не красивы.

Нѣм. писат. поговорка.

Ярославль

1909 –

Аўтограф паэта.

# З КУФРА МЯКОТАЎ

## (Малевічы — Мякоты — Валасовічы)



Ганна Валасовіч-Гразнова з супрацоўнікамі Літаратурнага музея Я. Купалы. 1966 г.

«Даруйце велікадушна, што да гэтага часу я Вам не напісала. Уся мая энергія выходзіла на доўгія лісты да Ніны Барысаўны. У мяне ў садочку многа кветак, я чытала беларускія кнігі і жыла ўспамінамі аб маім знаходжанні ў Мінску, аб усіх дарагіх мінчанах, якія так цёпла прынялі мяне. У мяне быў такі стан, што як быццам крылы выраслі, і было так добра, невытлумачальна добра, што я магла сказаць, што я шчаслівая. Але разам з такім настроем вельмі цяжка было перачытваць вершы Максіма, дзе ён піша;

*Але як я маркотна, панура*
*Да свайго пацягнуся кута,*
*Думкі нудныя зноў*
*закружацца,*
*Сэрца чулае зноў забаліць...*

«Шмат зазнаў я горычы з нудою, што шчаміла, мучыла, пякла!» і ўсё ж, нягледзячы ні на што, «маладосць не знікла, не прайшла» і «не злічыць у сэрцы светлых дум».' О, як гэта балюча, з дзяцінства яму даводзілася перажываць. Ён хворы, яму быў неабходны догляд, а яго не было. Цяпер я па-іншаму зразумела і ацаніла творчасць Максіма, гэтаму садзейнічала маё падарожжа ў Мінск.., вывучэнне беларускай мовы... Мяне вельмі бянтэжыць Ваша просьба напісаць успаміны пра Адама Ягоравіча і Максіма Адамавіча, а, галоўнае, пра тое, што Вам невядома. Я перачытала некалькі разоў артыкулы М. Барсток, М. Грынчыка, С. Майхровіча і апынулася ў няведанні, што ж я магу напісаць новае?»

У той свой першы прыезд Ганна Кіпрыянаўна наведала Гродна — прысутнічала на адкрыцці дошкі на Доме-музеі М. Багдановіча. УМенску агледзела ў майстэрні Вакара помнік паэту, пахваліла скульптуру, але сказала, што ў жыцці Максім быў прыгажэйшым (са слоў Н. Б. Ватацы).

Ганна Кіпрыянаўна разоў пяць прыязджала на Бацькаўшчыну, і кожны раз шчыльней станавілася кола яе беларускіх сяброў. Яе карэспандэнтамі былі Янка Брыль, Максім Танк, Пімен Панчанка, Алесь Адамовіч, Гаўрыла Гарэцкі, Алёна Васілевіч, Рыгор Шкраба, Язэп Семяжон, Мікола Ткачоў, Вера Палтаран, Ніна Ватацы, Алесь Бачыла, Сяргей Новік-Пяюн, — усіх я тут, мабыць, не назвала. Апошні паведаміў сястры паэта пра трагічны лёс яе родных па бацьку — Валасовічаў родам з Лані. Іх замучылі немцы ў Кадлычэўскім лагеры смерці за сувязь з партызанамі.

У літаратурным музеі М. Багдановіча захоўваецца эпісталярная спадчына Ганны Кіпрыянаўны, і сярод пісем некалькі акадэміка Гаўрылы Гарэцкага, брата пісьменніка Максіма Гарэцкага.

Гаўрыла Гарэцкі — Ганне Валасовіч-Гразновай:

«Дарагая Ганна Кіпрыянаўна! Шчыра дзякую Вам за ласкавыя пяшчотныя лісты, за цёплае віншаванне з маім 75-годдзем...

Ваш ліст повен такой узнёсласці і такой шчырасці, юнацкасці, паэтычнасці, мудрасці, пачуццёвасці, захаплення прыгаством жыцця, замілавання да нашай Радзімы, да ўсяго Светлага, такой павагай да беларускіх пісьменнікаў і культурных дзеячоў, асабліва да Максіма Багдановіча, Максіма Танка і Максіма Гарэцкага, — што я не магу адшукаць адпаведных слоў і формы, каб адказаць Вам належным чынам.

Дык хачу нізка пакланіцца Вам, як лепшай прадстаўніцы беларускіх жанчын, ахоўніцы і носьбітаў нашай культуры, нашай мовы... »

Ваш Г. Гарэцкі (4.XI.1975).

Асаблівай увагі заслугоўвае сяброўства Ганны Кіпрыянаўны з Н. Ватацы, А. Бачылам і Я. Брылём. З даследчыкамі творчасці М. Багдановіча сястру паэта зблізілі агульныя інтарэсы. Першыя імкнуліся сабраць, вывучыць, абагуліць і выдаць дакументальныя матэрыялы пра жыццё і творчасць М. Багдановіча, высветліць лёс яго блізкіх і родных, а Ганна Кіпрыянаўна выступала пры іх у ролі дарадцы, кансультанта, крытыка і чытача адначасова. І Ніна Барысаўна, і Алесь Бачыла заўсёды абапіраліся на яе ўспаміны, сведчанні, вядомыя толькі ёй адной факты. Алесь Мікалаевіч усімі сіламі імкнуўся выявіць і перадаць сутнасныя рысы духоўнага вобліку Багдановіча, дзеля чаго карыстаўся сродкамі і формай розных літаратурных жанраў. «Распрацоўваў» ён вобраз Багдановіча і як сцэнарыст (пры стварэнні першага фільма аб Багдановічу), і як аўтар лібрэта ў садружнасці з кампазітарам Ю. Семянякам (опера «Зорка Венера»). У цікавых, змястоўных лістах да Ганны Кіпрыянаўны Алесь Бачыла расказваў аб гэтай сваёй працы, не забываючыся адначасна парадаваць чым-колечы сваю карэспандэнтку, падбадзёрыць яе, усцешыць.

Н. Б. Ватацы была сувязным звяном паміж Ганнай Кіпрыянаўнай і яе «роднымі пісьменнікамі» з Менска. Лісты Ніны Барысаўны даносілі ў Ніжні Ноўгарад усе сталічныя навіны: аб устанаўленні помнікаў народным паэтам Беларусі Купалу і Коласу, аб святкаванні юбілеяў Крапівы, Танка, Броўкі і іншых, аб літаратурных вечарах, прысвечаных бацьку і сыну Багдановічам, аб выхадзе ў свет БелСЭ і пра многае іншае. Ніна Барысаўна працавала ў той час над складаннем кнігі біяграфічных матэрыялаў пра М. Багдановіча «Шлях паэта» і над яго альбомам. Час ад часу яна прасіла Ганну Кіпрыянаўну праясніць якое-колечы пытанне, даць патрэбную інфармацыю, штосьці зрабіць для справы. Ганну Валасовіч-Гразнову і Ніну Ватацы звязвалі цёплыя, шчырыя сяброўскія пачуцці.

Цяжка адказаць на пытанне, кім быў для Ганны Кіпрыянаўны Янка Брыль: кумірам? вялікім мастаком? дарагім чалавекам? Думаю, што усім разам адначасна. Аб гэтым сведчаць усе яе нататкі і пісьмы.

Першасным і галоўным было ўздзеянне мастацкага слова. Брыль-мастак ступіў аднойчы ў абсяг духоўнага жыцця Ганны Кіпрыянаўны і застаўся там назаўсёды, як аб'ект сталай увагі, захаплення.

Гарачую любоў да творцаў роднай літаратуры яна перадала і сваім родным. У адным з яе пісьмаў за 1966 год знайшла такія словы: «Мая Наташа атрымала ў спадчыну нашу беларускую душу, і ёй ужо паабяцана, што ў 1967 годзе яна паедзе ў Мінск. Мяне вельмі кранула, калі яна са школы прынесла кнігу Я. Брыля «Осколки радуги» і з захапленнем мне аб'явіла: «Вось радасць, бабуля, я прынесла табе кнігу Янкі Брыля». Відаць, ва ўсіх беларусаў у крыві любоў да сваёй Радзімы: яна перадаецца і нашчадкам».

Сяброўскія сувязі паміж Ганнай Кіпрыянаўнай і Іванам Антонавічам з года ў год мацнелі. З ім перапісваліся ўжо і Таццяна Пятроўна, і Наташа. Справа ў тым, што ў Наташы выявіліся паэтычныя здольнасці: «А што, калі гэта Максімавы гены?» І Івана Антонавіча папрасілі дапамагчы. Адзін з дасланых Наташай вершаў быў надрукаваны ў рэспубліканскай газеце «Зорка». Ганна Кіпрыянаўна прасіла Івана Антонавіча прыехаць да іх у Горкі неадкладна. «Хутка вясна і спадзяюся, Вы ўспомніце, што за сваёй кнігай «Творы» М. Багдановіча, том 11, Менск, 1928 года з даравальным надпісам Адама Ягоравіча ад 15.VII.1930 г. павінны самі прыехаць у Горкі (аб гэтым я Вам даўно гаварыла і пісала. Вы вельмі патрэбны ўсім нам, а для Наташы, лічу, проста неабходна гэта спатканне, паколькі я яе выхавала ў старых поглядах, а душа ў яе Максімава, яна «чуе, як расце трава», а гэта не падыходзіць да сучаснай моладзі, якая жыццё ўспрымае па-іншаму, і шчасце ўспрымае па-іншаму».

Наташа не стала паэтэсай. Яна стала медыкам. А тады Іван Антонавіч так адказаў на адзін яе ліст: «Милая Наташа! Спасибо за письмо. А насчёт того, что стихи не пишутся, я советую помнить слова Л. Толстого: если можешь не писать — не пиши. Желаю тебе успехов и счастья. Привет маме и бабушке. Янка Брыль, май 1974 г.».

Ганна Кіпрыянаўна некалькі разоў сустракалася з землякамі ў горадзе Горкім. 4 ліпеня 1967 года на дачу Ганны Кіпрыянаўны «Зялёная Дуброва» завіталі госці з Беларусі — музыказнаўцы І. Нісневіч і Л. Мухарынская. Прывязла іх Наталля Глебаўна Кунцэвіч, стрыечная пляменніца М. Багдановіча. Ганна Кіпрыянаўна разгубілася ад нечаканасці, «хоць і радасна было ўбачыць людзей з Беларусі». Гутарылі пра Максіма — аб яго любві да музыкі. А ўвечары Ганна Кіпрыянаўна прымала ўжо гасцей на Краснафлоцкай. «Мае дарагія госці прыйшлі, і мы пагутарылі. Мне здаецца, яны былі задаволены. Па крайняй меры ён (Нісневіч — І. К.) сказаў: «Я многа добрага чуў аб Вас ад Ніны Барысаўны і Веры Палтаран... Цяпер бачу, што Вы ўсёй душой жывяце Беларуссю». І паабяцаў прыслаць працы пра Максіма».

На другі дзень пасля сустрэчы з землякамі Ганна Кіпрыянаўна вярнулася на дачу «з настроем «Бацькаўшчыны». Цытую яе запіс у дзённіку: «У пяць гадзін вечара я слухала перадачу «Песні Палесся». І раптам заспявалі «Зорку Венеру». Я не вытрымала і заплакала, але плакала лёгкімі слязьмі, слязьмі смутку, журбы і ціхай радасці. Гэта быў такі момант, што яго не забыць усё жыццё. Гэта такі стан, які саграе, напаўняе маё ўдзячнае сэрца невыказным пачуццём. Вось гэта сустрэча і перадача зноў стварылі настрой «Бацькаўшчыны». Усе думкі, усе памкненні да цябе, мая Беларусь... Як жа я магла жыць, не ведаючы гэтай любві хваравіта-цудоўнай!?»

1968 год. На святкаванне 100-годдзя М. Горкага ў іх горад з'ехаліся дэлегацыі савецкіх і зарубежных пісьменнікаў. Прыехалі і знакамітыя беларусы — Я. Брыль, І. Мележ, П. Панчанка, М. Ткачоў, І. Шамякін. 21 чэрвеня раніцай Ганна Кіпрыянаўна сустрэла на прыстані параход з беларускай дэлегацыяй. Прыгажуны-цюльпаны чырвона-бела-ружовых тонаў дасталіся Янку Брылю. Ад яго прыняла сястра паэта кнігу твораў Максіма з аўтографамі «родных пісьменнікаў». На пленуме яна «сядзела са сваімі» і пачувала сябе «на вяршыні шчасця». «Янка Брыль сказаў, што калі ў верасні прыеду ў Мінск, то ён павязе на машыне па маіх родных мясцінах».



Наташа Сарока, стрыечная ўнучка паэта.

Сапраўды, увосень Ганна Валасовіч-Гразнова наведала Лань і Навагрудчыну, але звазіў яе туды не Іван Антонавіч, а па яго просьбе «харошыя хлопчыкі» У. Караткевіч і М. Стральцоў.

Асобная тэма гаворкі — сваяцтва Ганны Кіпрыянаўны з нашым Максімам. Тут больш да месца гаварыць аб сваяцтве духоўным. Паэзія Багдановіча спадарожнічала Ганне Валасовіч усё жыццё, прыносіла ёй велізарную эстэтычную асалоду, была тым паэтычным садам, куды ўваходзіла яна кожны раз, каб ачысціцца душой, выкупацца ў сонцы, адчуць прыгажосць жыцця; паэзія Багдановіча наталяла яе патрыятычныя пачуцці, гаварыла ёй, што яна беларуска. Магчыма, таму жыццё не змагло нівеліраваць Ганну Кіпрыянаўну на адзін «капыл» з іншымі, і яна захавала сваю адметнасць, сваю «нетутэйшую» беларускасць, любоў да Бацькаўшчыны.

Моўнага бар'еру не было. У сям'і Валасовічаў карысталіся беларускай гутарковай мовай. Літаратурнай тады не ведалі, адраджэнцы ляжалі яшчэ ў пялюшках. Па-народнаму ў сям'і называлі з'явы прыроды, птушак, жывёлу, расліны, зёлкі, прадметы хатняга ўжытку. Бабуля Таццяна Восіпаўна за ўсё жыццё так і не навучылася добраму рускаму маўленню, Ганна Апанасаўна абыходзілася «трасянкай», ва ўсіх захоўваўся беларускі акцэнт. Сваякі Секяржыцкія таксама карысталіся ў побыце беларускай гаворкай, ды і ў Лані, дзе малая Ганначка гасцявала ў дзядоў, ва ўжытку была родная мова. Духоўныя інтарэсы сям'і знаходзілі выйсце ў народных святах, абрадавасці, этычных нормах, якія прытрымліваліся і шанавалі. Нават стравы гатаваліся традыцыйныя беларускія: дранікі, верашчака, грыбы, аладкі на рошчыне, час ад часу пёкся свой хлеб на кляновым лісці — печ вымяталі духмяным памялом з галінак ядлоўцу.

Зберагла Ганна Кіпрыянаўна «Вянок» і «Творы» выдання 1928—1929 гадоў. Змоладу Максімавы вершы вывучала на памяць, дэкламавала іх потым бацькам і бабулі.

У Яраслаўлі яна ўбачыла, як жывецца Максіму. Спачувала яму. Не магла зразумець прычыны таго непаразумення, што раз'яднала паэта з роднымі. Пра гэта яна напісала ва «Успамінах пра брата». У сваім дзённіку прызнавалася: «Сумна і цяжка ўспамінаць, што была я побач з Максімам, а мы не ведалі адзін другога». Прыгадваючы Максіма, Ганна Кіпрыянаўна бачыла штораз адну і тую ж сцэну: яна сядзіць у вялікім кабінеце Адама Ягоравіча, а Максім, высокі, прыгожы, з хвалістымі валасамі, ідзе з бібліятэкі праз бацькаў кабінет у свой пакойчык: «Праходзячы, не спыняючыся і не гледзячы, кланяўся і казаў «добры дзень»... Толькі я была нясмелая і, адказаўшы на паклон, заставалася сядзець. А я ж магла яго паклікаць, затрымаць. Але што я магла сказаць, пра што пагаварыць? Я была яшчэ сарамлівай. З мамаю заходзілі да яго ў пакой, але пра што гаварылі — не памятаю, аднак родная, цёплая гаворка не атрымлівалася... Я ці баялася, ці не знаходзіла тэмы, тым больш, што слова давалася маме, а цёплая сардэчная гутарка ўзнікае, калі застаешся сам-насам з чалавекам».

Так і прайшоў Максім Багдановіч міма, пакінуўшы па сабе гэты балючы ўспамін.

Я памятаю Ганну Кіпрыянаўну ў лепшыя хвіліны яе жыцця: падчас сустрэч з студэнтамі БДУ і супрацоўнікамі Інстытута літаратуры; у тэатры Янкі Купалы, дзе праходзіў юбілейны вечар М. Багдановіча; на вечарыне з маладымі пісьменнікамі, дзе яна пазнаёмілася з Караткевічам, Лойкам, Мальдзісам; на апошняй і развітальнай сустрэчы з сябрамі ў гасцініцы «Мінск».

Радасныя, хвалюючыя падзеі вярталі сястру паэта ў маладосць, надавалі ёй «другое дыхание», рабілі шчаслівай і прыгожай. Душэўная іскрыстасць адбівалася тады ў прагных да жыцця вачах. У сваім дзённіку Ганна Кіпрыянаўна цытавала творы, якія, хвалявалі, суадносіліся з яе настроем, перадавалі думкі і пачуцці, былі выразнікамі яе ўласнага «я». Да такіх належыць і верш Канстанцыі Буйло.

Душы маёй крануцца не пасмее
Ні старасці засохлая рука,
Ні смерці ледзяністая завея,
Ні забыцця бяздумнага рака.
Яна гарэць умее гэткім бляскам,
Які ніякім змрокам не зацьміць,—
Душа мая заўсёды будзе жыць
У словах, поўных цеплыні і ласкі.

Ірына КРЭНЬ.

